№ 45. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.
Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробныя абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 45 (137). Год II. Вільня, 5 чэрвеня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## 4 чэрвеня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У завароці Вітчэта артылерыйская бітва дайшла ўчора найвялікшай сілы. Яна трывала ажно да ночы. На узбярэжжы мора, на каналі Лабассэ і наабапол Скарп баевая чыннасць крапчэла. У ночы, пасьля сільнай падгатоўкі агнём, былі сільные наступленьня пры Іллiш, Ленс, Моншы і Сэрісі. Яны ўсюды адбіты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Ля Зімовай гары, пры Краонн, мы пасьля вострай штыкавой бітвы здабылі францускіе акопы са 150 французамі і 15 кулемётамі. Сільные контратакі адбіты. Сягоньня ў начы мы на паўночным заходзі ад Брэ ўварваліся на францускіе пазыції і ўзялі больш за 100 палонных і 15 кулемётаў. У Шампані атака некалькіх францускіх рот адбіта контратакай.

**Усходні тэатр:**

Без вялікшых бітв.

---

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). Юрыдычная камісія тымчасоваго ураду апрацавала **закон аб выбарах** у установўчы сэйм. Закон загадывае агульную, простую, роўную і тайную падачу галасоў бяз рожніцы пола і на аснові пропорцыональнасьці. Кожын расейскі грамадзянін, скончыўшы 20 гадоў, мае права выбіраць.

Праект закона аддадзен дзеля прагляду спэцыяльнай камісіі, назначэнай дзеля выработкі гэтаго закона.

БЭРЛІН. **Мірнае настраеньне** народу і арміі ў Расеі пераходзіць і **на румыноў**. Палонные румыны апаведаюць, што 14 мая ў Яссах, Романі і Бакаў адбыліся вялікіе **дэмонстрацыі за мір.**

ШТОКГОЛЬМ. Нэутральны прамышленнік, каторы пасьля доўгай разведачнай падарожы па прамысловым рэёнам Расеі прыехаў сюды, кажэ, што **расейская прамышленасць папраўдзі перэстала істнаваць.** У губэрнях Пецярбурскай, Маскоўскай, Вяцкай, Тверскай, Харкоўскай і Уфімскай ужо ў пачатку гэтаго году вытворчасць сталася ніжэйшай за нормальную, а ад часу рэволюцыі яна становіць усяго толькі 15—20 працэнтоў нормальнай.

ШТОКГОЛЬМ. На з'ездзі дэпутатоў с фронтаў некаторые афіцэры казалі, што **падарожа Керэнскаго на фронт,** ад якой ждалі жыўленьня арміі, зусім **неўдалася.** Сваей двулічнасьцю Керэнскій зусім раздражніў салдатоў. Найбольшае абурэньне вызваў ён сваім прыказам, паводлуг каторага глаўнакамандуючый можэ ўжыць аружную сілу проці цэлых палкоў.

Керэнскій сам прызнаецца ў поўнай неўдачы. Вярнуўшыся ў Пецярбург, ён маніцца назначыць у склад ваеннаго міністэрства соцыал - дэмократоў, спэдзаючыся, што гэтак здабудзе веру работнікоў.

ШТОКГОЛЬМ. **У Кіеві былі чысьленые стычкі.** Тысячы дэзэртэроў адабралі аружжэ ў міліцыі, афіцэроў і кадэтоў. Дэзэртэры ўзялі ў аднэй ваеннай часьці кулемёт і ранілі многа салдатоў. Многа тысяч дэзэртэроў узяты ў палон, рэшта ўцякла. Парадак устаноўлен нанова.

**Аграрные разрухі** перакінуліся цяпер і ў Пецярбурскую губэрнію, каторая дагэтуль не была імі закранута.

На Маскоўска-Курскай чыгунцы узняліся **разрухі між жалезнадарожнікамі.** Спыніўся ўвесь рух на гэтай чыгунцы.

КОПЭНГАГА. **С Фінляндіі** даходзяць усё болей **трывожные весткі.** Забастовачны рух шырыцца. Уся старонка — ў руках бастуючых. Па загаду апошніх у Або спыніўся параходны рух. Бастоўшчыкі ўзялі ў свае рукі кантроль почты, тэлеграфу і таможні; яны пазваляюць прывазіць толькі спажыўные прадукты. Соцыал-дэмократычные газэты выходзяць. Нават у радыкальных кругах пануе неспакойство с прычыны павароту ў ходзі руху.

Швэдзкі місыонер Ілен вярнуўся гэтымі днямі цераз Расею з Індіі у Швэцію. Едучы цераз Расею, яму паказалося, што ўся старана зусім дэзорганізована.

НЬ'Ю-ІОРК. Доктар Енага, кіраўнік японскай пропаганды ў Амэрыцэ, публічна сказаў, што **Японія не дапусьціць сэпаратнаго міра Расеі с цэнтральнымі дзержавамі.**

БЭРН. Рада раб. і салд. у Сэвастополі арэштавала камэнданта места, Петрова, за тое, што той споўніў загады начальніка чорнаморскаго флоту, Колчака. Адмірал Колчак зажадаў, каб яго служачый быў зара выпушчэн на волю; калі-ж рада адмовілася зрабіць гэта, дык ён паслаў тэлеграмай просьбу аб адстаўцы. Тымчасовы урад паслаў экстрэнна ў Сэвастополь міністра Цэрэтэлі. Колчак, здаецца, астанецца на сваім мейсцы, бо рада салдатоў флота высказала яму сваю веру.

---

## Стары плян.

Работа, каторую цяпер польскіе нацыоналісты робяць у нашым краю, старяючыся прыдаць яму «польскі» характэр, — гэта работа ня новая.

Польскіе паны, польская буржуазія здаўна тое добра разумелі, што палажэньне іх у агульнай структуры краю, як надбудоўкі на беларускіх ці літоўскіх фундамэнтах, зусім нямоцнае і няпэўнае. Разумелі, што даволі, каб беларуска-літоўскіе народные массы заварушыліся, скрануліся з мейсца, і ўсе «надстройкі» рассыплюцца, і ад іх сьледу не астанецца. І з гэтай прычыны ўжо даўно—пры чыннай помачы часьці каталіцкаго духавенства—яны працавалі дзеля таго, каб стварыць *польскіе нізы* — абярнуць беларускіе і літоўскіе народные массы ў палякоў і на «нацыональнай еднасьці» з імі ўмацаваць сваё палажэньне у грамадзянскім ладзе нашаго краю.

Каб давясьці, што гэта — ня выдумка, а шчырая праўда, мы прыводзім тут жменю фактоў, бязспорнасць каторых пацьверджае крыніца, з якой мы іх узялі: стацьця п. Б. К. пад загалоўкам «W kwestji emigracji sezonowej z Królestwa do Litwy i b. Inflant polskich», надрукованая ў № 922 з 20. IV (3. V) 1913 г. польскай газэты «Dziennik Petersburski». Прызываючы польскіх работнікоў, каторые з году ў год выходзілі да Прусаў на работы ў полі, каб яны кіраваліся лепш у наш край, аўтор паменёнай стацьці пісаў:

„Што гэта думка — варта ўвагі і заслужывае, каб ею занялася прэсса, паказвае хаця-бы пададзены ў канцы таго году (1912) ковенскім сельска-гаспадарскім таварыствам праект выпісываць сэзоновых работнікоў с Польшчы, каторы цяпер часьцю ўжо праведзен у жыцьцё. Гэтак, першая партыя тых работнікоў, нанятая дэлегацыей т-ва, прыбыла ўжо на мейсцо 1 (14) марца г. г. (1913). Варункі працы гэткіе: мужчынам у летку плоцяць па 12 руб. за месяц, вясной і ў восені — па 10 руб., кабетам — на 2 руб. менш, ды апрыч таго ўсім выдаецца адпаведная ордынарыя.

„Я пераконан, што калі б у гэтым кірунку была наладжэна солідарна сельска-гаспадарскімі таварыствамі ў Польшчы і Літве нейкая пастаянная, пляновая работа, дык можна было-бы ў летнім часі забаспечыць заработак вялікшым партыям бяззямельных эмігрантоў с Польшчы ня толькі ў аднэй Ковенскай губэрні, але і ў іншых губэрнях гістарычнай Літвы (значыць, разам і Беларусі).

„Праўда, што варункі тут шмат горшые, чым у Прусах, і гэта, само сабой, ня можэ заахвоціць эмігрантоў, але праца дзеля пакіраваньня сэзоновай эміграціі ў Літву заслужываець на паддзержку адпаведных кругоў польскаго грамадзянства, бо таго вымагае добра зразумелая *нацыональная карысць.* Бо тут, у польскіх дварох, паміж сваіх землякоў, польскіе работнікі забаспечэны ад дэнацыоналізацыі чужынцамі нават і тады, каліб некаторые з іх *пасяліліся тут назаўсёды*".

Перэсяленьне польскіх бяззямельных работнікоў у наш край дзеля «нацыональнай карысьці» тутэйшых польскіх паноў, работа для тых жэ паноў за меншую плату і на горшых варунках, чым у іншых краёх, урэшці—пасяленьне тут сэзоновых работнікоў-палякоў назаўсёды — ўсё гэта ўхадзіло ў шырокі плян апалячэньня Беларуска-Літоўскаго краю. Ня дзіва, што за пададзены ковенскім с.-г. таварыствам праект ахвоча ўхапіліся шмат якіе тутэйшые паны ня толькі ў Ковеншчыне, але і ў Віленшчыне, Вітэбшчыне, Міншчыне. Але польскіе работнікі не захацелі служыць інтэрэсам польскаго панства — са шкодай тутэйшых селян і рабочых, каторые с прычыны лішне благіх варункоў працы на мейсцу прымушэны былі выежджаць у Расею, ў Амэрыку, ды нават у Афрыку. У партыях, законтрактованых у Варшаве, перэважывалі элемэнты зусім прыпадковые, незнаёмые з работай у полі, ды яны, папрабаваўшы працаваць у нас, цэлымі грамадамі ўцякалі с панскіх двароў, адрэкаючыся кантрактоў і грошы. Дык і плян заліць наш край польскімі работнікамі аказаўся неспаўнімым.

Польскім паном асталася гэтак толькі адна дарога дзеля стварэньня для сябе апоры ў народных массах: апалячываць беларусоў і літвіноў праз польскіе школы, ахронкі і каталіцкі касьцёл ды с падмогай вышэйшаго духавенства, працуючаго не дзеля веры, а дзеля «польскай справы», прывучаць да пакоры і слухмянасьці штучна змайстраваных тутэйшых «варшавякоў».

Гэта цяпер і робіцца.

*І. Мелешка.*

---

## Шануйма родную мову!

Усе скарбы мовы, як песьні, казкі, прыказкі, апавяданьня, разам сабраные, называюцца літэратурай.

Літэратура—гэта вялікі скарб, вялікае багацьце, незвычайнае хараство і сіла, бо ў ей адмаляваў-

# Рэволюція у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. З'езд селянскіх дэпутатоў выбраў спаўніцельны камітэт, зложэны з адных толькі **соцыал-рэволюцыонероў.** У тым ліку: міністэр сельскай-гастадаркі Чэрнов, Брэшко-Брэшкоўская, Керэнскій і Авксент'ев. Соцыал дэмократы зусім не прайшлі.

КОПЭНГАГА. «Politiken» даносіць с Пецярбурга:

У рабочым габінэці Мілюкова ў Думе адбылося бурнае заседаньне. **Мілюков** сказаў, што яго **сілай прымусілі пакінуць сваё становішчэ.** Прынята рэзолюція, катарая прызывае урад дзержацца цьвёрда умоў с саюзьнікамі, бо ад гэтаго залежаць **жыцьцёвые** інтэрэсы Расеі.

На Невскім праспэкці адбылася дэмонстрація с чорнымі знамёнамі з надпісамі на іх: „Вон уласьці!", „Вон капіталізм!", „Ніхай жыве соцыалістычная рэволюція і коммуна". Агітатары ўсюды заявілі, што ў дзень выбароў у местовую думу пачнецца **новая рэволюція.**

ПЕЦЯРБУРГ. Керэнскій сказаў у Кіеві, што установчы сэйм збярэцца ў лістападзі бо нельга дзеля выбароў адрываць вясковы народ ад работы.

Райчы ваеннаго міністра, палкоўнік Якубовіч, сказаў на з'ездзі дэпутатоў с фронтаў у Пецярбурзі, што число **дэзэртэроў даходзіць да мільёна.** У арміі страшэнна шырыцца п'янство.

ЖЭНЕВА. Па загаду тымчасоваго ураду, **выбары ў установчы сэйм** назначэны між 15 і 30 ліпня.

ПЕЦЯРБУРГ. Сьледчая камісія аб чыннасьцях быўшых міністроў напала на сьлед **патайнаго габінэту,** каторы меў свае аддзелы ў Маскве і ў Варшаве, дзеля тайнаго прагляду карэспандэнціі на почці з Расеі і ў Расею.

Работнікі **120 фабрык** Пецярбурга, працуючые перэважна дзеля ваеннаго міністэрства, **пастанавілі забаставаць.**

Больш за **3000 служачых** у крамах з гатовай адзежай і бялізнай **забаставалі** с прычыны таго, што гаспадары ня згодзіліся павялічыць ім плату за работу.

ПЕЦЯРБУРГ. З'езд дэпутатоў с фронту прыняў рэзолюцію, трэбуючы, каб былі зроблены ўсе крокі дзеля палажэньня канца сусьветнай бойні і устанаўленьня міра без аннэксій і контрыбуцій на аснові самаапрэдзеленьня ўсіх народаў.

ПЕЦЯРБУРГ. Газэта рады раб. і салд. «Ізвестія» пішэ: "Расейская рэволюція не змарнуе ні аднаго чэлавека, каб здабыць Эльзас і Лётарынгію. А як стаіць справа з Ірляндіей, Індіей, Агіптам? Калі вы хочэце бараніць справядлівасьці, дык пачніце с таго, што будзьце самі справядлівымі! Расейская дэмократія ня пойдзе ў сеці вашых пекных слоў! Яна ня будзе сваімі рукамі цягаць гарачые вугальля для англічан, французоў і японцаў. Расейская дэмократія і тымчасовы урад астануцца вернымі сваім прынцыпам, і саюзьнікі павінны даць шчыры адказ: так, ці не? А як адказ іх —не!, дык яны будуць адказываць за будучыну. Заявы францускаго і англіцкаго урадоў ня могуць здаволіць рэволюцыйную Расею. Нашы міністры павінны глядзець за тым, каб гэткая важная справа, як: вайна, або мір, — была-бы развязана ясна. Ніякое красамоўство ня можэ прымусіць расейскую дэмократію хоць адзін дзень ваеваць за перамену граніц."

На заседаньні рады раб. і салд. міністэр дарог Цэрэтэлі здаў справу с перэгавораў с паслами саюзьнікоў аб **перэглядзі старых умоў с саюзьнікамі** і аб новай палітыцэ Расеі. Цэрэтэлі сказаў, што расейскіе соцыалісты здабылі значны ўплыў на саюзьнікоў і на заграпічную палітыку.

ПАРЫЖ. Расейскі урад прыняў **адстаўку Ізвольскаго** і загадаў да часу спаўняць яго чыннасьці Сэвастопуло.

ПАРЫЖ. С Пецярбурга даносяць:

Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. наладзіў спэцыальную камісію с прэдстаўнікоў усіх соцыалістычных партый дзеля падгатоўкі сазыву **міжнароднай соцыалістычнай конфэрэнціі.**

МАСКВА. На нарадзі прэдстаўнікоў **«акцябрыстоў»** Гучков заявіў, што наладжэна **новая партыя,** якая злучае **буржуазна-дэмократычные элемэнты.**

БЭРН. С Пецярбурга даносяць, што па загаду тымчасоваго ураду арэштован в. кн. Мікалай Мікалаевіч с прычыны монархістычных інтрыг у Тыфлісе.

У членоў царскай сям'і былі зроблены обыскі. У імператрыцы-ўдавы обыск адбыўся ў начы. Імператрыца павінна была ўстаць і адзецца. У яе забралі каля 2 пудоў пісем, якіе знайшлі у шуфлядах.

Керэнскій аглядзеў чорнаморскі флот. **Ч**уткі, што начальнік апошняго, Колчак, выйшоў у адстаўку фальшывые.

ШТОКГОЛЬМ. У Маскве пад кірункам Гучкова наладзіўся буржуазна-дэмократычны блок. Левые кадэты з міністрам Некрасовым, дабіваючыся міра, зыйшліся з радай раб. і салд. З гэтаго скарысталі акцябрысты і наладзілі той блок, да катораго далучыліся правые кадэты. Родзянко паддзержывае Гучкова.

Тымчасовы урад выдаў рад загадоў **проці ўжываньня спіртных напіткоў** цераз меру. Хто ў нецьвярожым стане выйдзе на вуліцу, таго карацімуць вастрогам да 18 месяцоў. За праступкі, зробленые ў стане нецьвярозым, карацімуць катаржнымі работамі.

Тымчасовы урад пацьвярдзіў прэдлажэньне міністра фінансоў, Тэрэшчэнкі, аб выпуску **2 мільярдоў руб. бумажкамі**

У сваей справоздачы тымчасоваму ураду аб **справі Сухомлінова** міністэр судоў кажэ: „Сухомлінов пасьля аб'яўленьня вайны не парупіўся павялічыць вытворчасць казённых заводаў, якіе працуюць для арміі, і ня выкарыстаў прыватнай прамышленасьці дзеля патрэб гасударства. Гэтым ён памог ворагам Расеі ў іх напасьці на Расею. Далей ён даваў вядомаму яму Мясоедову, нямецкаму шпіону, ведамасьці аб контрразведцы генэральнаго штабу, а аўстрыяцкаму агенту Альтшыльлеру—тэкст сваіх справоздач цару аб ваеннай падгатоўцы Расеі. Нігілістам Гашэвічу і Юмбадзэ ён даваў ведамасьці аб ваенных формаціях, мобілізаціі і перавозках." Жонку Сухомлінова вінаваццяць у тым, што яна памагала мужу.

Тымчасовы урад апавешчае, што на моцы прэдлажэньня фінляндзкаго сэнату ўсім фінляндзкім падданым часьцю або зусім дарована кара за праступкі, ўчыненые перад 30 марца 1917 году.

Тымчасовы урад прыстаў на гэткіе праекты законаў, зацьверджэные фінляндзкім сэймам:

1. право сэйму судзіць аб згоднасьці з законамі загадоў членоў правіцельства;

2. право сэйму вымагаць ад членоў ураду тлумачэньня;

4. закон аб найвышэйшым судовым трыбунале;

5. закон аб найвышэйшым адміністрацыйным судзе;

6. закон аб забароні і абмежываньні спажываньня алькоголя;

7. закон аб вырабе алькоголя;

8. закон аб напітках с соладу;

9. закон аб прадажы натуральнаго віна;

10. закон аб лоўлі стынкі ў забароненым часі.

ПЕЦЯРБУРГ. «Бірж. Вед.» пішуць, што фінляндзкі банк **не меняе больш расейскіх бумажэк** на фінляндзкіе маркі. З гэтай прычыны, каб мець маркі дзеля выплат, дзе трэба, фінляндзкімі маркамі, расейскі урад робіць пазыку на 100 мільёнаў фінляндзкіх марак.

У часі расейска-фінляндзкіх перэгавораў выявілося, што найбольш цяжка спаўніць жаданьне фінляндцоў, каб **аўтономія Фінляндіі была зацьверджэна міжнародным актам.**

АПАРАНДА. Забастоўка ў Або шырыцца. Галава места і дума узяты ў ратушу пад арэшт.

## З усяго сьвету.

КОПЭНГАГА (В. Т. Б.). **Нямецкая соц.-дэм. дэлегація** выехала у Штокгольм.

АМСТЭРДАМ. Голандзка-скандынаўскі камітэт штокгольмскай конфэрэнціі паслаў Радзі раб. і салд. у Пецярбурзі телеграму, што трэба чым хутчэй сазваць соцыал-дэмократычны з'езд усіх старон. **Расейскіх дэпутатоў** просяць прыехаць у Штокгольм **між 10 і 15 чэрвеня.**

ШТОКГОЛЬМ. Работніцкіе **соцыалістычные організаціі Англіі** будуць мець сваіх прэдстаўнікоў на конфэрэнціі у Штокгольмі.

ЛІДС (у Англіі). Староннікі міра зрабілі тут дэмонстрацію, з радасьцю **вітаючы расейскую рэволюцію.** Прынята рэзолюція ўсюды ладзіць па прыкладу Расеі рады с прэдстаўнікоў работнікоў, салдатоў і селян.

КОПЭНГАГА. «Socialdemokraten» друкуе гутарку з расейскім соцыал-дэмократам Д'яросбаўмам (?), каторы называе забастовачны рух у Англіі першай праявай **не зда-**

„Рада ось тут мая: перэстань, брат, тужыць,
„Як другую вазьмеш, весялей будзеш жыць,
„А каб сьвет не брахаў, добра жонку схавай,
„Са тры тыдні спусьці, ды у сваты валяй".
—„Праўду кажэш, панок, без жаны трудна
[жыць,
„Нет каму даглядзець, ні абмыць, ні абшыць.
„Рада добра, тож так; дык німа што казаць.
„Падыдзіж Пан аднак па жане папеяць".

---

Да старшыны валіў з усей вёскі народ;
Усе на погрэб ішлі, як у воласць на сход;
Старшына не жалеў ні закускі, ні піць,
Дык на погрэб такі не патрэба прасіць.
Сярод хаты ў труне старшыніха ляжыць,
У галавах у збанку адна сьвечка гарыць.
Ужо цёмна было, арганісты прышоў;
Ён у покуці пеў, сьпеў с кантычкі завёў.
А народу ўжо поўная хата была,
Хто пеяць добра мог, той сядзеў ля стала.
Пірагі на сталах дык ляжалі гарой,
Як капы на лугу сена летняй парой.
А у пляшках, збанках—піва, водка стаіць,
Бо на суха пеяць, дык і горла баліць.
Ну і сьпеў жэ там быў! Завялі, хто куды;
Лепей хіба пяюць пад касьцёлам дзяды,
Аж ня можна пазнаць, які бес так равець.
Адзін вые, як воўк, той авечкай бляець:
—„Ось і песьні канец, то і час аддыхнуць;
„Трэба штось закусіць, да і трохі лыкнуць".
Арганісты сказаў і кіўнуў галавой,
Да суседа прапіў і паеў чарадой.
Не чураўся ніхто, хоць маршчыўся, а піў
За Ганулькі душу і старшынку хваліў.
Усе жалеюць яго. Так кругом гаманяць.
Аддыхнуўшы часок, пачалі зноў пеяць.
Чым часьцей гэта так аддыхалі яны,
Кожны чуў па сабе, што ўжо добра п'яны.
Па паўночы усім ахрыплі галасы,
Старыкоў сон змарыў, паспушчалі насы.
Арганісты-ж тады стаў ванэльлю чытаць;
Прачытаўшы яе, пачаў мову казаць:
—„Жалабны слухачы, старшыны сусяды,
„Мы чаго гэта ўсе так зышліся сюды.
„О! вядома чаго, дык німа што пытаць,
„Мы зышліся сюды старшыніху хаваць.
„Отож, братцы мае, вот кабета была!
„А як добра яна с сваім мужам жыла!
„Так за гэта ужо пэўне ў небі, але!
„Бо такой не было ў цэлым нашым сяле.
„Ты, старшынка, не плач, годзе Бога маліць
„«Confitebor tibi», у Пісьме так стаіць.
„Вот анелі у рай старшыніху вя-ду...уць"...
Ен тут мову прарваў, кашэль спёр яму
[грудзь.
Кашлянуў, памаўчаў, што сказаць ім цяпер,
Ціха стала, аж тут хтосьці грымнуўся ў
[дзьвер
(чы с-п'яна хто упаў, чы якая смала?)
Аж са страху усе падняліcь ад стала.
Вецер ў хату махнуў, згасла сьвечка ў
[збанку,
Цёмна стало кругом. Надалось старшыне,
Што ў труне ось жана паднялася, сядзіць,
Упёрла вочы ў яго і як ведзьма глядзіць.
„Гвалт, ратуйце мяне!" вот завёў ён як вол.
Гдзе стаяў, там упаў і палез аж пад стол.
Што тады там было, нет і сіл апісаць;
Як у пекле чарты, сталі ўсе так крычаць.
Уцякаў, хто як мог; гнало ўсіх пяруном:
Адны рынуліcь ў дзьвер, іншы лез аж
[вакном.
Палаянскі-ж палез пад спадніцу жане,
А старшынавы зяць роў ў кадушцэ на дне.
Адзін лез аж у печ і саган развярнуў.
Арганістаму-ж хтось аж на плечы скікнуў.
Ен тут даўся ў вакно з усіх сіл і папёр,
І здалося яму, што за ім той упёр
Ззаду гнаўся усё. Ен, як мог, уцякаў,
І жагнаўся, маліў, «Анёл Панскі» казаў.
Глядзь! рабая труна стаіць тут ля села;
Старшыніха з яе рукі ў верх узняла,
Вось-вось схопіць яго, вот канец дзе
[прыйшоў!
Закрычаў ён што сіл і у роў тут упаў.
Арганісты праспаў цэлы дзень у раве.
І ня відзеў ніхто, бо лежаў у траве;
Сонцэ толькі зайшло, тады вочы прадраў.
Прыпадняўся, глядзіць: рабы слуп там
[стаяў;
Папярок у вярху ён дасочкі дзьве меў
(Маляваных знакоў там дождж змыць не
[пасьпеў).
Прачытаў ён, на іх напісана было:
„Вот так у Ашмяну, так у Шумск—у сяло".

Пісаў у Медніках
8—III—17 г. **Янка Быліна.**

